# ПТУШКА ГОДА



***Крысціна Шышакова,*** 13 гадоў (Мінск)



***Яўген Макарэвіч,*** 14 гадоў (Стаўбцоўскі р-н)



***Наталля Закрэўская,*** 16 гадоў (Наваполацк)



***Алёна Хмарун,*** 8 гадоў (Светлагорск)



***Анастасія Ільінова,*** 14 гадоў (Віцебск)



***Вольга Бажко,*** 11 гадоў, ***Ксенія Смалячкова,*** 12 гадоў (Мінск)



***Юлія Гамава,*** 13 гадоў (Салігорск)



**Рыбалка і лоўля птушак "перавесам".**
*Старажытны малюнак.*

**На старонках часопіса "Птушкі і мы" зноў самыя розныя матэрыялы: апавяданні натуралістаў, гістарычныя нататкі, здымкі фотааматараў, дзіцячыя малюнкі. І ўсё пра прыроду, птушак, звяроў, расліны...**

**Многіх з аўтараў нашы чытачы ведаюць добра – яны ўжо не раз друкаваліся тут. А для некаторых гэты нумар – першая проба пяра.**

**Арнітолаг з Белавежскай пушчы Андрэй Абрамчук распавядае нам пра мясціну, якую ён любіць, – Арэхаўскі луг. І ў гэтым вялікі сэнс. Давайце яшчэ і яшчэ раз расказваць усім: сябрам і незнаёмым пра нашы самыя лепшыя куточкі, родныя краявіды, самых цікавых і таямнічых птушак.**

**Не саромейцеся сказаць усім: «Глядзіце, якая цудоўная наша прырода, я люблю яе».**

**Пішыце ў рэдакцыю. Нам вельмі патрэбны вашы закаханыя ў Беларусь лісты.**

**Ігар Бышнёў**



*Рэдактар:* Ігар Бышнёў

*Рэдакцыйная рада:*
Уладзімір Іваноўскі, Аляксандр Вінчэўскі, Віктар Фенчук, Сяргей Зуёнак, Сяргей Плыткевіч, Павел Пінчук

*Пераклад на ангельскую мову:*
Віктар Фенчук

*Малюнкі:* Ігар Бышнёў

Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ

*Наш адрас:*
АПБ, а/с 306, Мінск-50, 220050, Беларусь
Тэл.: (017) 263 01 30. Факс (017) 263 06 13
E-mail:APB@tut.by. http://apb.iatp.by

Надрукавана ў тыпаграфіі ТАА «Юстмаж».
Ліц. №02330/0148792 ад 30.04.2004
Мінінфармацыі РБ
Наклад 299 экз. Заказ 1122.

Дзейнасць АПБ падтрымліваецца Каралеўскім Таварыствам Абароны Птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі




АПБ з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком BirdLife International у Беларусі




# ЗМЕСТ

**ПТУШКІ І МЫ**
**№7'2005**



На здымку: **АМЯЛУШКІ**
(фота І. Бышнёва)
























Дарагія сябры!

Прайшоў год з таго моманту, як я прыняў эстафету старшынства з рук Міхаіла Нікіфарава. Ён пакінуў мне ў спадчыну даволі наладжаны і збалансаваны механізм АПБ, які ўпэўнена набіраў зададзеную хуткасць. Увесь мінулы год у мяне была няпростая задача: пастаянна трымаючы руку на пульсе АПБ, сачыць за тым, каб мы не толькі не саступілі з заваяваных пазіцыяў, але і зрабілі ўпэўненыя крокі наперад па ўсіх накірунках. У народзе гавораць, што куранятаў увосень лічаць, а цяпер за акном якраз цудоўная залатая восень. Самы час падводзіць вынікі. На жаль, у межах гэтага звароту я не магу асвятліць усё тое, што планавалася, тое, што зроблена, і тое, што замінае выканаць тыя ці іншыя пункты плана.

Частка з гэтых пытанняў асэнсоўвалася ў бюлетэнях АПБ і ў поўным аб'ёме будзе прааналізавана ў дакладзе на чарговым з'ездзе. Разам з тым пра асноўныя дасягненні і адносныя няўдачы я павінен сказаць. Наступіў заключны этап праекта, звязанага з выкананнем планаў кіравання ТВП Палесся, паспяхова стартаваў праект TACIC па стварэнні школьных клубаў, вялікі рэзананс у рэспубліцы меў чарговы чэмпіянат па спартыўнай арніталогіі. Працягваецца рэалізацыя праграмы па выяўленні і апісанні "ТВП Беларусі", падрыхтавана 2-е выданне "Скарбаў прыроды Беларусі". На стадыі рэгістрацыі знаходзіцца праект ГЭФ-ПРААН па аднаўленні парушаных балотаў, а ў цэлым – у блоку "Захаванне рэдкіх відаў і асноўных месцаў жыцця" ужо выконваюцца ці стартуюць у канцы 2005 і на працягу 2006 гадоў больш за сем буйных праектаў.

Для каардынацыі працы, звязанай з гэтымі праектамі, і, уласна, дзеля кантролю за якасцю іх выканання, перад намі ўзнікла неабходнасць увядзення ў пастаянны штат офіса АПБ пасады намесніка выканаўчага дырэктара па выкананні навуковых праектаў.

Паступова развіваецца структура нашай арганізацыі: узнікаюць новыя рэгіянальныя аддзяленні, расхінаюць свае крылы клубы "Крылаты дазор". Разам з тым прыходзіцца канстатаваць, што павелічэнне колькасці сяброў АПБ ідзе не такімі хуткімі тэмпамі, як хацелася б. Але на гэта ёсць свае аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны. Пра адну з іх мне хацелася б раскавесці больш падрабязна. У шэрагу рэгіянальных ВНУ існуюць біялагічныя факультэты з кафедрамі заалогіі, батанікі, экалогіі. Штаты гэтых ВНУ забяспечаны высокакваліфікаванымі спецыялістамі-біёлагамі, але чамусьці гэтая актыўная маса выкладчыкаў і студэнтаў застаецца па-за дзейнасцю АПБ. Гэта гаворыць аб тым, што мы недастаткова актыўна працуем з імі на месцах, мала прыцягваем іх да выканання праектаў, якія ажыццяўляюцца ў гэтых рэгіёнах.




У межах прапанаванага звароту я не маю магчымасці пералічыць усе арганізаваныя і праведзеныя АПБ мясцовыя кампаніі і акцыі – іх вельмі многа. Для прыкладу нагадаю толькі, што нацыянальная акцыя "Гарадская ластаўка – птушка 2004 году" стала лаўрэатам конкурса "PRемия–2004".

У традыцыях АПБ актыўнае супрацоўніцтва са сродкамі масавай інфармацыі як у сталіцы, так і ў рэгіёнах. Хоць і не заўсёды ў тэрмін, за што я як старшыня АПБ, прашу прабачэння, але мы працягваем выдаваць наш бюлетэнь, наш часопіс "Птушкі і мы", наш навуковы "Subbuteo" і ўсё іншае "НАШАЕ..."

Мне хочацца спадзявацца на ўпэўненасць сяброў АПБ, што наша арганізацыя працягвае пазітыўны рух у патрэбным кірунку, хоць і з пэўнымі цяжкасцямі. Хочацца таксама адзначыць, што гэты шлях нам лягчэй пераадольваць яшчэ і таму, што заўсёды побач з намі наш надзейны партнёр – RSPB.

Будзем памятаць, што АПБ створана для вывучэння і аховы нашых любімых птушак і ўсёй біяразнастайнасці дзеля сучаснага і будучага пакаленняў. Поспеху вам!

*Уладзімір Іваноўскі,*
*старшыня АПБ.*
*26.10.2005 г.*

**In his address to the readers of "Birds and Us" magazin, APB chairman Dr Uladzimir Ivanouski focused on achievements of the organization in 2005, among which were finalization of the project on implementation of urgent conservation measures of management plans for key Polesia mires, successful launch of TACIS project on establishment of a network of school clubs, big resonance of the national birdwatching championship. The programme of IBA inventory is on the run allowing to prepare the second edition of "The treasures of Belarusian nature". With GEF-UNDP project on restoration of degraded peatlands undergoing registration, the component "Conservation of rare species and key habitats" of APB strategic plan has over 7 large projects that are implemented or launching in 2005-2006.**

# У СЭРЦЫ ПАЎДНЁВАЙ АМЕРЫКІ

**Аляксандр ВІНЧЭЎСКІ**

Фота аўтара

Планы, звязаныя з асваеннем паўднёваамерыканскага кантыненту, узніклі ў мяне восенню 2003 года, калі BirdLife International прапанаваў АПБ удзельнічаць у праграме павышэння кваліфікацыі супрацоўнікаў нацыянальных арганізацыяў. Чатыры модулі праграмы Building on experience планаваліся ў Гане, Іарданіі, Парагваі, Інданезіі. На маю долю выпалі трэнінгі ў Гане і Парагваі.



### GUYRA PARAGUAY – "АХОВА ПТУШАК" НА МОВЕ ГУАРАНІ

У Асунсьёне мы наведалі офіс парагвайскай партнёрскай арганізацыі Guyra Paraguay (GP), заснаванай у 1997 годзе бёдуотчарамі-энтузіястамі. Гэтая арганізацыя налічвае 12 штатных супрацоўнікаў і каля 160 сяброў. Яе супрацоўнікі з гонарам паказвалі нам свае дасягненні. Асабліва ўразіла наведванне ГІС-лабараторыі і офіса. Арэнда паловы імпазантнага двухпавярховага асабняка з басейнам і невялікім унутраным дворыкам у цэнтральнай частцы Асунсьёна абыходзіцца арганізацыі штомесячна ўсяго 500 доляраў. Разнастайныя фонды ЗША ахвотна фінансуюць розныя праекты, скіраваныя на захаванне і вывучэнне біяразнастайнасці Паўднёвай Амерыкі.

Самай прыярытэтнай задачай GP з'яўляецца захаванне першай ТВП Парагвая – ляснога масіва Сан-Рафаэль. Гэта ўнікальная частачка, што захавалася ад атлантычных першабытных лясоў, якія знікаюць проста на вачах. За 400 гадоў знаходжання еўрапейцаў у Паўднёвай Амерыцы ад атлантычных лясоў засталося 12%, пры гэтым не больш за 2% у натуральным стане. У Сан-Рафаэль водзіцца 11 відаў птушак, якім пагражае глабальная небяспека. Сярод іх – славутыя арол-гарпія і каралеўскі грыф. Гэтая тэрыторыя была аб'яўлена нацыянальным паркам яшчэ ў 1992 годзе, а межы былі вызначаны толькі ў 1997 годзе (60.000 га). Каб не аддаваць лес дзяржаве, прыватныя ўладальнікі, якім да гэтага часу належыць большая частка ўнікальнага лесу, за пяць гадоў высеклі яго пятую частку. У 1999 годзе быў арганізаваны Кіраўнічы камітэт, які складаецца з дзяржаўных арганізацый і НДА, землеўласнікаў Сан-Рафаэля і тэрыторый, што суседнічаюць з ім. Камітэт рэгулярна збіраецца і кансалідуе зацікаўленыя сілы вакол нацыянальнага парку. Аднак урад не валодае неабходнымі рэсурсамі для выкупу земляў. Задача кааліцыі GP і яшчэ некалькіх грамадскіх арганізацый – сабраць сродкі для выкупу Сан-Рафаэля з рук прыватных уладальнікаў. Ужо выкуплена некалькі ўчасткаў плошчай каля 150 га.

GP ініцыявала праграму па міграцыі птушак. Пад час выканання праграмы было апісана адно з найважнейшых месцаў адпачынку і нагулу кулікоў у Паўднёвай Амерыцы – у заліве Асунсьён (Bahia de Asuncion). У гэтай ТВП былі адзначаны кулікі 18 відаў, рэгулярна ўлічваецца больш за 1% сусветнай папуляцыі *Calidris melanotus* і *Tryngites subruficollis*. Тут былі зафіксаваны ў вялікай колькасці неарктычныя мігранты ў лагунах чако.

Пасля піянерскіх даследаванняў авіфаўны травяністых раўнінаў і балотаў серадо на поўначы Сан-Рафаэля арганізацыя выконвае цяпер шэраг праектаў па захаванні мясцовай біяразнастайнасці.

### ДЗІКАЯ ПРЫРОДА

Калі вы не любіце дзікай прыроды, то ехаць у трыдзесятае царства ў Парагвай вам няма неабходнасці. А вось калі любіце...

У Парагваі сустракаецца каля 800 відаў птушак. З іх 27 відаў занесены ў міжнародную Чырвоную кнігу. 5 відаў птушак з'яўляюцца эндэмікамі. У краіне вызначана 40 ТВП, 5 рамсарскіх тэрыторый.

Парагвай фізіка-геаграфічна дзеліцца на дзве амаль роўныя часткі – большую, што знаходзіцца на захад ад ракі Парагвай, якая называецца чако ці Гран чако і ўяўляе сабою раўніну, падобную да палескай: з лясамі, балотамі, хмызнякамі, саванамі, і ўсходнюю частку, гістарычна пакрытую трапічным лесам. Каля 95% тэрыторыі краіны знаходзіцца ў прыватнай уласнасці (колькі дакладна – не ведае ніхто). На жаль, "развязаныя" рукі ўласнікаў і поўнае ігнараванне законаў прывялі да таго, што ва Усходнім Парагваі знішчаны амаль усе першабытныя лясы.

У Асунсьёне амаль на кожным кроку і цяпер можна купіць вырабы з pali santo – цяжкавагавага араматычнага дрэва, нарыхтоўка якога катэгарычна забаро-



нена. У сувязі са знішчэннем лясоў дзесяткі відаў жывёлаў і раслінаў аказаліся на мяжы знікнення. Праўда, многія віды птушак прыстасаваліся да жыцця ў другасных лясах, што дзенідзе былі пасаджаны на месцы высечаных. Тут без цяжкасцяў можна ўбачыць некаторыя віды ярка афарбаваных трагонаў, туканаў і папугаяў.




Уздоўж дарог па ўсім Парагваі вас суправаджаюць платы. За імі – прыватная ўласнасць: праход і праезд забаронены. Нам сказалі, што атрымаць дазвол у гаспадара якой-небудзь эстансіі, каб пазнаёміцца з яе прыродай, нескладана, але для гэтага патрэбна, па-першае, ведаць іспанскую мову і, па-другое, застаць на месцы гаспадара, які звычайна жыве ў горадзе і прыязджае ў сельскую мясцовасць зрэдку, як на дачу. На эстансіях жывуць толькі метысы і індзейцы, якія пасвяць гаспадарскую жывёлу і займаюцца раслінаводствам. Нацыянальныя паркі кепска падрыхтаваны да прыёму турыстаў, прынамсі, дабрацца да гэтых паркаў нялёгка, і магчымасць начлегу там вельмі абмежаваная. Пра стварэнне ўмоваў для назірання за птушкамі і жывёламі няма й мовы. А каб убачыць пазваночную жывёліну ў трапічным лесе, патрэбен неверагодны шацунак. Найпрасцей назіраць за папугаямі і іншым лятучым і квітнеючым хараством на ўзлеску.



**ЧАКО**

Гран чако таксама падзелена агароджамі на акуратныя ўчасткі. Але невялікая ўрадлівасць тутэйшых земляў пакінула гэты край маланаселеным. На 800 км раскінулася чакская раўніна, а жыве тут толькі 5 % насельніцтва краіны, хоць і так сярэдняя шчыльнасць парагвайцаў у 4 разы меншая, чым у беларусаў. Амаль першабытная прырода чако і яе маштабы не могуць пакінуць абыякавым. Проста з адзінай дарогі, што вядзе з Асунсьёна ў Балівію, можна за гадзіну ўбачыць каля дзесятка драпежных птушак, а таксама буслоў – біру і магуары, ружовых колпіц, мускусных качак і гіганцкіх лясных пастушкоў.

На жаль, мы не мелі часу для наведвання аддаленых рэзерватаў у Гран чако. Але ўжо ля першай ракі, што перасякала дарогу, мы змаглі прагуляцца сцежкамі мясцовых паляўнічых і браканьераў у галерэйным рачным лесе, што быў акаймаваны пальмавай саванай. На берагавой гразі ўбачылі сляды тапіра і мясцовых лісіцаў, ляснога ката ягуарундзі і янота кааці. Чарнагаловыя папугаі і гіганцкія птушкі-паўзункі, дробныя ціранулеты-валасяніцы прыцягвалі ўвагу кожныя пяць хвілінаў. Мяркуючы па рэштках палявання, што засталіся ля кастрышчаў браканьераў, у наваколлі сустракаліся і страусы нанду. На жаль, на наступны дзень я мусіў адлятаць, але з задавальненнем правеў паўдня ў чако, вярнуўшыся ў Асунсьён перад самым адлётам у Сан-Паула.

Дзякуючы чако мой асабісты спіс птушак папоўніўся 30 новымі відамі.



**РАЗВІТАННЕ**

Тэмпература змянялася ад +5 ноччу да +25 днём. Разгар мясцовай зімы. Ліпеньская парагвайская зіма ніколькі не ахалодзіла наш першапраходчыцкі азарт – мы глядзелі на ўсё шырока расплюшчанымі вачыма, адкрывалі для сябе новыя віды птушак, запісвалі ў палявыя блакноты прыкметы відаў, што не знайшліся ў вызначальніку (а раптам новы для навукі від?). Развітваючыся з гэтаю гасціннаю гарачаю краінаю, мы па-добраму зайздросцілі маладому англічаніну Джону, які колькі гадоў назад змяніў туманны Альбіён на тутэйшую прыгажосць, эмігрантам-суайчыннікам, што яшчэ да вайны грунтоўна асталяваліся тут і стварылі сапраўдныя славянскія паселішчы сярод бяскрайніх прастораў невялікай паўднёваамерыканскай краіны. Калі яшчэ вецер вандраванняў закіне ў другое паўшар'е?

**In his article "In the heart of South America" APB-BirdLife Belarus CEO Alexandre Vintcheuski tells about nature conservation activities of Guyra Paraguay (GP), the BirdLife International partner in Paraguay. Founded in 1997 by birdwatchers, this organization works actively to protect country's unique nature. One of the main priorities is conservation of the first IBA of Paraguay – San Rafael forest that supports 11 globally threatened species. The author also shares his impressions of magnificent nature of Paraguay.**

# НАВІНЫ АРНІТАЛОГІІ



Новае даследаванне, якое выканалі BirdLife і Nature Uganda (BirdLife ва Угандзе), паказвае, што ТВП з'яўляюцца эфектыўным механізмам для захавання шырокага дыяпазону біяразнастайнасці. Нягледзячы на тое, што ТВП адбіраюцца выключна па крытэрыях, заснаваных на птушках, абаронцы прыроды даўно зразумелі, што гэтыя тэрыторыі гэтаксама важныя для захавання большага дыяпазону іншых раслінаў і жывёлаў, якім пагражае знікненне.

Лясны дэпартамент правёў інвентарызацыю пяці вялікіх таксанамічных групаў (птушкі, дзённыя матылькі, вялікія начныя матылі, дробныя сысуны і дрэвы) ва ўсіх 50 лясных рэзерватах Уганды. Паралельна Nature Uganda вылучыла па арніталагічных паказальніках сярод лясных рэзерватаў 13 ТВП. Аказалася, што гэтыя тэрыторыі ўтрымліваюць таксама найбольшую колькасць прадстаўнікоў кожнага з пяці таксонаў у параўнанні з астатнімі рэзерватамі.

*Biological Conservation Volume 125*

***



Новыя публікацыі НДА "Ахова птушак Няпала" (BirdLife ў Няпале), "Статус няпальскіх птушак у 2004", акрамя канстатацыі ўжо вядомых фактаў пагоршання стану біяразнастайнасці, утрымлівае трывожную інфармацыю пра вельмі высокую хуткасць знікнення птушак. Напрыклад, крычка *(Sternia aurantia)* яшчэ ў 1991 годзе была звычайным відам, а цяпер у Каралеўскім нацыянальным парку Chitwan не зарэгістравана ніводнай птушкі. У рэзерваце Tappu Koshi за апошнія тры гады самая вялікая чарада складалася з шасці птушак.

Арнітафауна Няпала складаецца з 861 віду – 8% ад усіх вядомых у свеце птушак. З іх 133 (15%) цяпер знаходзяцца пад пагрозаю знікнення, разам з 72 відамі, стан папуляцый якіх – крытычны.

Прычыны пагоршання навакольнага асяроддзя выкліканы беднасцю і прыростам насельніцтва на фоне хранічнай палітычнай няўстойлівасці. Мясцовае насельніцтва знішчае лясы для пашырэння месца для сяўбы і на паліва (драўніна складае 78% у паліўным балансе краіны) на тэрыторыях, якія некалі добра ахоўваліся, – а гэта асноўная прычына знікнення жаўтабрушкавай пячураўкі *(Phylloscopus cantator)*, баблера Абота *(Malacocincla abbotti)*. Бенгальскі флараікан *(Houbaropsis bengalensis)*, балотны франколін *(Frankolinus gularis)* і ерчык Хаджсана *(Saxicola insignis)* знікаюць праз няправільнае кіраванне лугавымі экасістэмамі. Вузкаспецыялізаваныя віды, такія як трагапан сацір *(Tragopan satyra)* і вялікі насарог *(Buceros bicornis)*, пакутуюць ад прамысловай здабычы бамбука і, асабліва, у сувязі са знікненнем старых дрэў. Усюды знізілася колькасць рыбаедных птушак, таму што ўся рыба практычна знішчана нават на тэрыторыі нацыянальных паркаў: з дапамогаю атрутных рэчываў, узрыўчаткі і шматлікіх невадаў.

*The State of Nepals Birds 2004*

***



Жаўтавокі пінгвін *(Megadyptes anfipodes)* лічыцца самым рэдкім пінгвінам у свеце. Ад таямнічай хваробы гіне амаль 80% птушанят у найбольш пацярпелых раёнах Паўднёвага вострава Новай Зеландыі. Побач з глабальнай папуляцыяй, якая налічвае 5000 птушак, гэты від класіфікуецца на сёння як знікаючы. Галоўныя пагрозы — гэта інтрадуцыраваныя драпежнікі, найперш каты і гарнастаі. Затым — страта і дэградацыя традыцыйных месцаў існавання, рэзкія спады колькасці птушак, звязаныя як з хваробай, так і з недахопам ежы.




**Жаўтавокі пінгвін** *(Megadyptes anfipodes)*

Дэпартамент аховы прыроды Новай Зеландыі цяпер праводзіць даследаванні, звязаныя з вызначэннем прыроды хваробы, якая, як мяркуецца, выклікана штамам CORYNEBACTERIUM. Вядома больш за 50 штамаў гэтага тыпу інфекцыі, адзін з якіх выклікае дыфтэрыю ў чалавека.

Папярэдне заўважана, што ўспрымальныя да хваробы толькі птушаняты, да гэтага часу не выяўлена ніводнай хворай дарослай птушкі. Усе птушаняты, да якіх змаглі дабрацца вучоныя на востраве Атага, атрымалі антыбіётыкі. Вялікія суседнія калоніі малых пінгвінаў (Endyptula minor), відаць, валодаюць імунітэтам да гэтай хваробы.

*Forest and Bird, 2005*

***



Беладзюбы дзяцел *(Campephilus principalis)*, адзін з найбуйнейшых дзятлаў свету, нядаўна быў засведчаны ў Арканзасе, ЗША. Лічылася, што гэты від знік яшчэ ў 1944 годзе, калі бачылі апошнюю самку. На працягу часу з лютага 2004 і па красавік 2005-га ў лесе Біг Вудс (басейн Місісіпі) адбылося некалькі рэгістрацый адной мужчынскай асобіны гэтага віду. Зроблены відэазапіс, на якім можна разгледзець пяць характэрных прыкметаў гэтага віду. Лясны масіў мае плошчу больш як 220 000 га, і невялікую папуляцыю тут знайсці складана. Лес часткова аднавіўся пасля інтэнсіўнага высякання, што і прывяло да знікнення гэтага віду птушак.

*Science, Vol 308, Issue 5727, 1460-1462, 3 June 2005*

***



Даследаванні пацвердзілі, што бурагаловы папаўзень, месцам жыхарства якога з'яўляецца востраў Гранд Багама, можа быць асобным відам. На сучасны момант вылучаюць 3 падвіды бурагаловага папаўзня *(Sitta pusilla)*, два з іх фіксуюцца ў кантынентальных ЗША: *S.p. pusilla* – на паўднёвым усходзе, S.p. caniceps – у Фларыдзе. Толькі S.p. insularis жыве па-за межамі кантыненту на Гранд Багама. Цікава, што гэты падвід быў апісаны арнітолагам Джэймсам Бондам, імем якога Ян Флемінг назваў свайго супершпіёна. Апошнія даследаванні паказалі, што голасам і памерам дзюбы астраўная форма моцна адрозніваецца ад іншых падвідаў і можа лічыцца асобным відам: S. insularis. Такім чынам, птушка становіцца чацвёртым эндэмікам астравоў. Тым не менш, незалежна ад статусу, які атрымае папаўзень з часам, месцажыхарства гэтай птушкі знаходзіцца пад пагрозаю. Папуляцыя колькасцю 1800 асобінаў займае лясы, дзе расце карыбская сасна (Pinus caribaea). Толькі наданне ахоўнага статусу лясным масівам дапаможа засцерагчы лес ад высякання і забудоўлі.

*2004. Bahamas Journal of Science 12(1):21-28*

**Пераклаў Аляксандр ВІНЧЭЎСКІ**

# АРЭХАЎСКІ ЛУГ

**Андрэй АБРАМЧУК**

Напэўна, шмат хто ведае пра найбольш захаваныя прыродныя скарбы Беларусі, большасць з якіх знаходзіцца на поўдні краіны, на Палессі. Большасць, прынамсі, спецыялістаў і аматараў прыроды ведаюць Тураўскі луг, Выганаўскае возера, рыбгасы "Сялец" і "Белае", шмат іншых цікавых і прыгожых мясцінаў. І ў кожнага арнітолага і проста аматара прыроды напэўна ёсць свае любімыя мясціны. У гэтым артыкуле я хацеў бы распавесці вам яшчэ пра адну.


АНДРЭЙ АБРАМЧУК

Тут, на самай мяжы з Украінай, недалёка ад граніцы з Польшчай, сярод вялізных плошчаў асушаных зямель, захаваўся невялічкі куточак некранутай прыроды – усё Палессе ў мініяцюры. Сапраўднай пярлінай гэтага куточка з'яўляецца возера Арэхаўскае – найбуйнейшы, захаваны ў натуральным стане вадаём у беларускай частцы басейна Заходняга Бугу. На паўднёва-усходнім беразе возера знаходзіцца невялічкі забалочаны пойменны луг, плошчай усяго каля 200 га. Аднак вясной, калі возера разліваецца і ўвесь луг пакрыты вадою, акрамя асобных нешматлікіх сухіх астраўкоў, ён ператвараецца ў царства каляводных птушак. Каго тут толькі ні сустрэнеш! Прыйшоўшы сюды на досвітку і не паспеўшы дастаць бінокль, заўважаеш, а дакладней спачатку чуеш характэрнае "беканне" бакаса, які на працягу ўсяго дня будзе такаваць над лугам, то хутка набіраючы вышыню, то рэзка кідаючыся ўніз. Раніцай бакасы невялічкімі групкамі альбо па адным збіраюцца на гразевых мелкаводдзях альбо каля лужаў, дзе шукаюць сабе здабычу. А калі іх выпадкова патурбуеш, яны разлятаюцца, робячы характэрныя імгненныя кідкі ў розныя бакі. Тут жа, поруч з бакасамі, зрэдку можна ўбачыць і стучка – невялічкага паўночнага куліка, які сустракаецца на лузе толькі на пралёце і ў адрозненне ад свайго тэмпераментнага суродзіча характарызуецца вельмі спакойным характарам. Сядзіць звычайна дзе-небудзь на краі лужыны, пасярод леташніх сухіх травінак, і заўважыць яго вельмі складана. Але часцей за ўсё тут можна сустрэць звычайную ў нас кнігаўку ды куліка-случка, якія, як бы спаборнічаючы, суправаджаюць цябе, пакуль, як ім здаецца, не прагоняць са свайго гнездавога ўчастка.



Арыстакратамі Арэхаўскага лугу з'яўляюцца вялікія грыцукі. Сёння ў Еўропе гэта вельмі рэдкія птушкі, невялічкая іх калонія тут налічвае 8–15 пар. Вялікія, даўганогія і даўгадзюбыя, яны дзелавіта расходжваюць па калена ў вадзе сярод маладой травы і адразу прыцягваюць увагу. Але і яны вельмі ўважлівыя: як толькі заўважаць, што вы накіроўваецеся ў іх бок, адразу ж уздымаюць абураны крык. Іх характэрнае "уцюцюу-уцюцю" вельмі добра выдзяляецца ў агульным хоры балотных жыхароў пойменнага лугу.

Калі ідзеш па калена ў вадзе па насычаным рознымі колерамі і птушынымі галасамі лузе, тады разумееш, што тут, сярод невялікага кавалачка некранутай прыроды, сярод яго жыхароў, можна па-сапраўднаму адчуць радасць жыцця запаведнай прыроды. І, быццам у адказ на ўзніклае ў цябе пачуццё радасці, хуткія самцы-баталёны, незвычайна прыгожыя і розныя ў сваіх веснавых убраннях, імкнучыся заваяваць сэрцы непрыгожых у параўнанні з імі самак, пачынаюць свае незвычайныя танцы, якія часам ператвараюцца ў сапраўдныя батальныя сцэны. Але раптам танцы спыняюцца, птушкі імгненна ўзлятаюць шчыльнай чародкай і, зрабіўшы некалькі кругоў, зноў апускаюцца на адзін з астраўкоў, працягваюць свае танцы. Што магло напалохаць птушак? Узняўшы галаву ўгору, заўважаю буйную драпежную птушку, якая лунае над лугам. Характэрны светлы ніз, крыху сагнутыя ў палёце крылы і светлая шапачка на галаве адразу дазваляюць пазнаць скапу. Скапа не часты госць на Арэхаўскім лузе. Часцей, ды і то толькі ў перыяд міграцыі, яна з'яўляецца над возерам і разлівамі. Сярод іншых пярнатых драпежнікаў тут можна ўбачыць высока ў небе малога арляца, арлана-белахвоста, які часам залятае з возера і разліваў, недалёка ад якіх у забалочаным алешніку знаходзіцца яго, самага буйнага пярнатага драпежніка нашай краіны. Але, абодва гэтыя моцныя прыгожыя драпежнікі не вельмі ўжо і небяспечныя для пярнатых жыхароў лугу. Калі першы з іх, нягледзячы на свае памеры і ганарлівую постаць, з'яўляецца даволі дзіўным гурманам, аддаючы перавагу ў харчаванні палёўкам і жабам, то другі, не выяўляючы асаблівых патрабаванняў у харчаванні, з птушак ловіць пераважна раненых альбо аслабленых вадаплаўных.

Сярод іншых рэдкіх жыхароў лугу тут вясною можна ўбачыць калісьці вельмі рэдкага ў Беларусі, жоўтадзюбага лебедзя-клікуна, які атрымаў сваю відавую назву якраз дзякуючы характэрна-


СЯРГЕЙ ЧАРАПІЦА

му гучнаму трубнаму голасу, што крыху нагадвае выццё ахрыплай пажарнай сірэны.

З блакітнай вышыні неба бясконцым, бесперапынным патокам льецца вясёлая песня палявога жаўрука. А на сухіх астраўках калі-нікалі можна сустрэць сціплага і маўклівага, які аднак адрозніваецца экстравагантным адзеннем, яго паўночнага суродзіча – рагатага жаўрука, жыхара тундры.

Залацістая сеўка, сявец, шматлікія баталёны, лебедзь-клікун, рагаты жаўрук, чырванаваллёвы свірстун – часам вясной Арэхаўскі луг нагадвае хутчэй кавалачак паўночнай тундры, а не палескі край.

Пад час гнездавога сезону луг уяўляе сабой адну вялікую калонію, дзе найбольш шматлікімі жыхарамі з воднабалотных птушак з'яўляюцца кнігаўкі і кулікі-случкі. Тут жа побач на асаковых купінах будуюць свае гнёзды вялікія грыцукі, а на сухіх узвышаных астравах гняздзіцца некалькі пар вялікіх зуйкоў і нават вельмі рэдкая ў Беларусі качкашылахвостка.

Побач з лугам размешчана возера Арэхаўскае, а крыху на поўнач за возерам, адасобленая ад яго невялічкай паласой затопленага большую частку году алешніка, знаходзіцца старая торфапляцоўка – урочышча Разлівы. Само возера, а таксама затопленая торфапляцоўка, з'яўляюцца ўнікальным месцам, дзе знайшлі сабе прытулак шмат рэдкіх і знікаючых у Еўропе птушак.

Самым таямнічым жыхаром трысняговых джунгляў з'ўляецца чапля-бугай, чый голас чуваць тут найчасцей. Часам на разлівах з адной кропкі чуваць да 5 вакалізуючых птушак. Аднойчы, калі мы разам з польскімі сябрамі былі на экскурсіі ва ўрочышчы і на



возеры, некалькі разоў у нас з-пад самых ног узляталі бугаі. Пасля адной з такіх чарговых сустрэч адзін з палякаў сказаў: "Што ж гэта за край такі, дзе ад бугаёў трэба адбівацца?!" Блізкі родзіч чаплі-бугая – чапля-лазянік. Яна больш скрытная, і часцей яе сустрэнеш у зараслях карчоў па берагах каналаў, дзе яна звычайна будуе сваё гняздо і выводзіць патомства. У тых жа трысняговых зараслях, часцей увечары і на досвітку, можна пачуць характэрнае "квак-кувак" малога пагоніча, невялічкай, вельмі прыгожай і асцярожнай птушкі, таксама рэдкай у Еўропе. Цэлы дзень па акрузе разносіцца характэрны трэск салаўінага цвыркуна і сумны посвіст рэмеза. І хаця самога рэмеза даволі цяжка ўбачыць – вельмі ўжо ён маленькі і рухавы, затое яго гняздо даволі часта трапляецца на вочы, асабліва з восені да зімы, калі на дрэвах і кустах няма лісця. Гняздо, даволі вялікае ў параўнанні з самой птушкай, мае выгляд вялікай рукавічкі і будуецца з пуху рагоза ды раслінных валокнаў і размяшчаецца на канцы тонкіх галінак дрэў, звісаючы над вадой. Таму дабрацца да яго ні адзін з нашых драпежнікаў – ні крылатых, ні зубатых – не можа, і птушаняты ў ім знаходзяцца ў поўнай бяспецы. На невялічкіх люстэрках сярод рагозна-трысняговых зараснікаў можна ўбачыць, але часцей таксама пачуць шэрашчокую коўру, рэдкую і прыгожую птушку, якая валодае асаблівым, вельмі адметным голасам. Ён нагадвае ці то віск ахрыплага парсюка, ці то конскае іржанне. Ранняй вясной, калі яшчэ не сышоў снег і вясна толькі пачынае ўступаць у свае правы, з арэшнікаў, што акаляюць возера і разлівы, даносіцца глухое уханне пугача – таямнічага начнога ўладара лесу. Звычайна пугач не вельмі добра ўжываецца з арланам-белахвостам, апошні яго выцясняе, але тут абодва гэтыя віды жывуць побач.

Вясна найбольш цікавая пара года ў жыцці мясцовай прыроды. Усё навокал ажывае. Акрамя мясцовых птушак, на разлівах сустракаецца шмат рэдкіх мігрантаў, якія спыняюцца тут на адпачынак пад час доўгага шляху на радзіму. З вясны па восень, калі ты ціха сядзіш з вудаю на беразе абводнага каналу альбо адной з карт, калі пашанцуе, можна пачуць і нават убачыць ад-


СЯРГЕЙ АБРАМЧУК

ну з самых прыгожых нашых птушак, дарэчы, таксама рыбалова – зімарадка. Сваім апярэннем, доўгай дзюбай і імгненным лётам, ён звычайна адразу кідаецца ў вочы. Да таго ж і голас яго – рэзкі, працяжны свіст "ці, ці-ці-ці-ці, ці" – адразу ж вылучаецца сярод іншых галасоў. Гэтая птушка адметная тым, што, як можна зразумець і з яе відавой назвы, даволі часта сустракаецца зімой, каля незамерзлых каналаў і ручаёў. На Разлівах таксама часта зімуе.



Тут, на плошчы ўсяго каля 1000 гектараў прадстаўленыя унікальныя прыродныя супольнасці, як першародныя, так і трансфармаваныя. Да таго ж яны, гарманічна спалучаныя, абумовілі фармаванне унікальнага арнітакомплексу, які мае ў сваім складзе больш за 180 відаў. Значная частка гэтых відаў вельмі рэдкія, і ахоўваюцца не толькі ў Беларусі, а і ў Еўропе. А стварэнне ахоўваемай тэрыторыі, запаведніка ці заказніка тут дагэтуль толькі плануецца. Плануецца ўжо як 10 гадоў. Але ж хіба гэта так важна – стварыць ахоўваемую прыродную тэрыторыю? На жаль, у нашай краіне сам па сабе факт абвяшчэння тых ці іншых мясцін ахоўваемымі не вырашае ўсіх праблемаў па іх захаванні. Больш важным з`яўляецца разуменне мясцовымі жыхарамі яе каштоўнасці, унікальнасці і неабходнасці далейшага захавання. Ні ў адной з краін Заходняй Еўропы не засталося нават крыху падобных на гэтыя мясціны тэрыторый. Таму нашым абавязкам з`яўляецца захаваць гэты луг, возера, лясы ў такім стане, у якім іх захавалі і перадалі нам у спадчыну нашы дзяды і прадзеды, захаваць іх хаця б дзеля таго, каб перадаць у спадчыну сваім дзецям і ўнукам.

**At the very border to Ukraine and very close to the border to Poland there lies Arechauskae lake - the largest intact lake in the belarusian part of the Zahodni Buh floodplain. The lake is surrounded by unique natural communities - meadows, mires, forests, covering over 1000 hectares. More than 180 bird species have been registered here, including many rare on national and even European scale. The core of this natural complex is Arechauski meadows. Thousands of birds rest here on spring migration, lots of species are nesting. In the article "Arechauski meadows" ornithologist from Belavezskaja pusca Andrej Abramchuk tells the readers about his favourite place.**


ВІКТАР ФЕНЧУК

У гэтым годзе за пальму першынства змагаліся галоўным чынам фотаанімалісты Гродна. Іх серыі здымкаў вылучаліся. Асабліва гэта датычыць двух аўтараў – Георгія Гулеўскага і Сяргея Чарапіцы. Першыя месцы іх працам аддалі пераважна ўсе члены журы, у склад якога, між іншым, увайшлі сябры Савета АПБ. Працы **Г.Гулеўскага** рознага плану, з рэдкім сюжэтам, мастацкія. Чаго варты толькі адзін здымак малога арляца *(фота 1)* – 1-е месца. Віншуем пераможцу!

У працах **С.Чарапіцы** выклікае захапленне ўседлівасць майстра. Ён дасягае выдатных вынікаў, выкарыстоўваючы здымкі са схованў. Пры тым сховы гэтыя ладзяцца не ля гнязда! Вельмі маляўнічая і экалагічна цікавая серыя кулікоў *(фота 2, таксама фота на стар. 9)*, зробленая на месцах адпачынку і харчавання, заслужана адзначана "срэбрам".

Трэцяе прызавое месца заняў **Аляксандр Вінчэўскі**, які мае, дарэчы, таксама трывалыя гродзенскія карані. Адзін здымак звычайных качак-крыжанак *(фота 3)* на фоне сканцэнтраванай у вадзе восені даказаў, што часам можна дасягнуць выдатных вынікаў, здымаючы ля сваёй хаты ці працы.

**Мікола Гулінскі** (ізноў Гродна) заняў чацвёртае месца, прапанаваўшы на суд журы серыю здымкаў птушак, сярод якіх хацелася б выдзеліць фотаздымкі з выявай белых буслоў і чорнаваллёвага гагача *(фота 4)*.

Нарэшце перабіраемся на самую поўнач Беларусі – заказнік Чырвоны Бор. Арнітолаг **Дзмітрый Шамовіч** прапанаваў серыю фотаздымкаў рэдкіх птушак – драпежнікаў, як начных, так і дзённых *(фота 7)*. Гэта не магло не закрануць сэрцы членаў журы, якое ўзначальваў вядомы спецыяліст па драпежных птушках Уладзімір Іваноўскі – 5-е месца.

**Вольга Лукшыц** (Мінск) добра зрабіла фотаздымкі чорнай крычкі, малых грычуноў і сям'і лебедзяў-шыпуноў з птушанятамі, якія нядаўна вылупіліся *(фота 6)*.

**Ілья Бышнёў** (самы малады ўдзельнік фотаконкурса з пасёлка Дамжэрыцы – Бярэзінскі запаведнік) у гэтым годзе сфатаграфаваў малога арляца пад час лёту і выканаў някепскую серыю здымкаў качак на фоне адлюстраваных у вадзе хатаў *(фота 9)*. **А.Н. Мельнікаў** (Гродна) выканаў выдатныя гарадскія пейзажы з птушкамі ў кадры *(фота 10)*. **Віталь Кашчэеў** з Браслава сфатаграфаваў птушак, што жывуць у дуплянцы, і рэмеза ля гнязда *(фота 5)*. А **Яўген Сліж** (ізноў – Гродна!) "адужаў" сям'ю падкаменак *(фота 8)*. На гэтым дзесятка лепшых фатографаў-анімалістаў 2004 году заканчваецца. Глядзіце іх фотаздымкі на старонках нашага часопіса. А фотаконкурс працягваецца. Дзякуй усім, хто даслаў свае працы. І ўдалых фотатрафеяў вам у полі!

# НАШ



**Пугач** *(Bubo bubo)*

**Даўгахвостая кугакаўка** *(Strix uralensis)*

**Шэрая кугакаўка** *(Strix aluco)*

**Балотная сава** *(Asio flammeus)*

# ЗА ТАЯМНІЧЫМІ ПТУШКАМІ НОЧЧУ

**Эдуард МОНГІН**

Фота аўтара

Вывучаючы розныя віды кулікоў на працягу ўсёй сваёй прафесійнай дзейнасці, я, напэўна, найменш займаўся такімі відамі, як слонка і стучок. Калі першы від і сустракаецца ўсюды ў разнастайных тыпах лесу, а яго вечаровы токавы палёт з характэрным «харканнем» вядомы многім аматарам прыроды і паляўнічым, то яго лад жыцця да гэтага часу вывучаны недастаткова. Слонка вядзе таемны лад жыцця, актыўны ў час змяркання і ноччу. Нягледзячы на тое, што слонку залічваюць да лясных відаў птушак, яна, як паказваюць даследаванні, значную частку часу праводзіць на лугах і палях, дзе актыўна корміцца ў начны час. Яшчэ больш таямнічы лад жыцця вядзе стучок, актыўнасць якога таксама выпадае на час змяркання і ноч. Але гэты від засяляе пераважна пераходныя і нізінныя балоты. Мне не даводзілася назіраць токавых палётаў стучка, але падчас працы я не адзін раз успуджваў гэтых птушак сярод поймавых лугоў і балотаў. Стучок вельмі часта спыняецца сярод вільготных участкаў балоцістых мясцінаў. Як правіла, яны выбіраюць больш вільготныя месцы, чым бакас. У пойме стучок часам сустракаецца проста сярод залітых вадою купінаў асакі. Брыдзеш, бывае, па калена ў вадзе, і раптам проста з-пад ног вылятае невялікая птушка, якая ў сваім палёце чымсьці падобная да матылька. Дарэчы, блізкая дыстанцыя спуджвання з'яўляецца адною з асаблівасцяў паводзін стучка. І дубальт, і бакас — птушкі, падобныя па знешнім выглядзе і паводзінах, — узлятаюць, як правіла, на адлегласці 5—10 м.



Бліжэй пазнаёміцца са слонкаю і стучком мне давялося толькі ў апошнія пяць гадоў маёй працы. А начным адловам гэтых птушак я стаў займацца зусім нядаўна. Патрэбна сказаць, што новую арыгінальную методыку начнога адлову слонкі распрацавалі французскія вучоныя Іў Фяран і Франсуа Госман. Я знаёмы з імі па перапісцы, але быў прыемна здзіўлены, калі атрымаў запрашэнне прыняць удзел у канферэнцыі Рабочай групы па вывучэнні слонкі і стучка. На гэтай канферэнцыі французскія калегі прадэманстравалі новыя метады начнога адлову слонкі. У час абмеркавання разнастайных пытанняў на семінарах у нас узнікла ідэя рэалізацыі праекту па адлову і кальцаванні слонкі на тэрыторыі Беларусі. Патрэбна адзначыць, што адны з галоўных месцаў зімовак еўрапейскай слонкі знаходзяцца на тэрыторыі Францыі. У дзяржаўных службаў па ахове фауны і рэгуляцыі палявання выклікае занепакоенасць значная доля здабывання гэтага віду ў еўрапейскіх краінах, найперш у Францыі і Італіі.



Адна з задач, якую ставяць перад сабою французскія вучоныя — гэта высвятленне шляхоў міграцыі гэтага віду, а таксама выяўленне колькаснай дынамікі еўрапейскай папуляцыі і тэндэнцый яе змянення. Цяпер у Францыі, дзякуючы намаганням вучоных, у перыяд з лістападу па снежань адлоўліваюць і кальцуюць да трох тысяч мігруючых і зімуючых слонак.

Але давайце вернемся да начных адловаў кулікоў у нас у Беларусі. Міжнародная экспедыцыя па адлову слонак пачалася ў нашай краіне ў канцы верасня мінулага года на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка. Затым мы даследавалі і іншыя раёны, перабіраючыся з месца на месца на аўтамабілі. На працягу цэлага тыдня мы шукалі месцы канцэнтрацыі слонак у час восеньскай міграцыі, а таксама праводзілі кальцаванне птушак. У гэтай працы прынялі ўдзел вядомыя расійскія вучоныя Сяргей Фокін і Пётр Звераў, якія на працягу апошніх дзесяці гадоў актыўна вывучаюць слонак. Патрэбна адзначыць, што нядаўна выйшла з друку іх кніга "Вальдшнеп и охота на него", у якой яны падрабязна расказваюць пра гэты від і прыводзяць вельмі цікавыя звесткі пра ягоны лад жыцця.

Патрэбна, нарэшце, расказаць і пра метад адлову слонкі. З тэхнічнага боку ён даволі просты. Выкарыстоўваецца магутная галагенная фара 75—100 Вт і сачок на доўгім (да 9 м) пластыкавым вудзільне. Птушкі высвечваюцца магутным праменем святла, а затым да іх можна наблізіцца і накрыць сачком. У спрактыкаваных лаўцоў колькасць злоўленых птушак можа дасягаць 40% ад усіх убачаных. Гэта проста выдатна, бо слонкі – птушкі асцярожныя. Галоўнае – у час заўважыць птушку, якая за кошт афарбоўкі свайго пер'я амаль зліваец-

ца з расліннасцю. Гэта можа зрабіць толькі вопытны чалавек.

Зараз пэўныя ўспаміны пра той час зліваюцца ў адно цэлае, але вастрыня перажыванняў ад азарту ў час адлову птушак захавалася й да гэтага часу. Уявіце! Уладкаваўшы абсталяванне, мы, у змроку, выязджаем на раней вызначанае месца для адлову. Падзяліўшыся на дзве групы, мы пачалі шукаць птушак на прасторным лузе. У промні ад фары паблісквацюь кроплі расы, ля дзюбы ўздымаецца пар ад дыхання. Раптам удалечы біснулі і згаслі агеньчыкі, промень святла ізноў выхоплівае вочы, што свецяцца. Ды гэта проста заяц! Перасоўваючы прамень далей, ізноў натыкаемся на зеленаватыя вочы, што падсвечваюць, але гэта ўжо – ліса, што выйшла на начное паляванне. У час начнога адлову вельмі часта трапляюцца лісы. Калі да іх блізка не набліжацца, то яны не непакояцца. Але вось Франсуа, які нёс ліхтар, замёр на месцы, і я, прыпыніўшыся ў яго за спіною, заўважыў рыжаватую птушку, вочы якой адсвечвалі чырвонымі агеньчыкамі. Нарэшце-такі слонка! Адзін крок, другі... Адзін чалавек з сачком, а другі з ліхтаром суладна набліжаюцца да затоенай птушкі. Няспешна падводзіцца вудзільна, і плаўным рухам сачок пачынае апускацца. Слонка, высвечаная промнем святла, замерла ў напружанай нерухомасці. Яшчэ імгненне і ... Ёсць, першы! Затым узважваем і кальцуем птушку. Адпушчаная слонка, млява хлопаючы крыламі, знікае ў начным небе.

Другую птушку далі паспрабаваць





злавіць мне. Ізноў памалу рухаемся. Прамень ліхтара вымалёўвае дзівосныя ўзоры па росным лузе. Я крочу за Сяргеем, проста амаль за яго правым плячом. Сяргей трымае ў руках ліхтар. На яго плячах рукзак з акумулятарам, вага якога немалая – 6 кілаграмаў. Калі насіць на плячах адразу два акумулятары, то напрыканцы адлову пра сябе заяўляе стомленасць. Але вось, нарэшце, і мы адшукалі птушак. Мой пульс забіўся часцей, на зямлі сядзелі адразу дзве слонкі. Вось гэта шацунак! Крок за крокам набліжаемся да птушак, стараючыся рухацца як мага больш сінхронна. Вось вудзільна ў маіх руках плаўна ўздымаецца і затым пачынае няспешна апускацца на птушак. Бліжэй, яшчэ бліжэй! Застаецца, напэўна, паўтара метра, і я паскараю падзенне сачка. Воплеск, і адна з птушак выскоквае з-пад вобаду сачка. Шкада! Але гэта ж другая ў нас! Я падбягаю да слонкі, што мітусіцца, і бяру яе ў рукі. Так, пасля бакасаў і дубальтаў слонка здаецца велікаватаю. Птушку можна абхапіць толькі абедзвюма рукамі. Чаму ж тут здзіўляцца – слонка мае вагу ад 300 да 400 грамаў, у той час як дубальт – ад 150 да 200, а бакас – усяго толькі 100–130 грамаў.

Ну, а стучкоў мне даводзілася адлоўліваць адначасна з начным пошукам слонкі. Восенню, з другой паловы верасня, пачынаецца пралёт гэтых таямнічых птушак. Яны часта затрымліваюцца ў нас да замаразкаў, а часам і зімуюць. Са здзіўленнем я адзначыў, што ў час пралёту на пэўных участках канцэнтруецца да 406 птушак. Як правіла, яны тут кормяцца. Цікава было назіраць, як высвечаная ліхтаром слонка затойвалася на месцы пасярод павольнай плыні ручаіны, а затым, быццам у роздуме, ізноў пачынала рухацца ў пошуках корму, выхопліваючы час ад часу дробных беспазваночных сярод іскрыстай вады. Стучкі часта падпускалі ўшчыльную, а часам я іх заўважаў толькі пасля ўзлёту, калі мой цень палохаў птушак. Злоўлены стучок выглядае малюсенькім у параўнанні са сваяцкімі яму слонкамі, дубальтамі і бакасамі. Вага яго каля 50 грамаў. І толькі з сярэдзіны кастрычніка трапляюцца асобіны да 70–80 грамаў. Гэтую максімальную вагу стучкі набіраюць перад пачаткам чарговага кідка да месцаў зімовак.



Калі дапісваюцца гэтыя радкі, то за акном ужо ізноў кастрычнік, ізноў ляцяць на поўдзень птушкі, і я рыхтуюся да чарговага адлову на поймавых лугах Бярэзінскага запаведніка. Гэтым начам своеасаблівы каларыт надае рык аленяў, што выходзяць на ўзлескі ў пошуку супернікаў. І хто ведае, можа, сённяшні наш выхад будзе самы паспяховы.

**The article "In the night after mysterious birds" by Dr Eduard Mangin tells about night catching of waders during the joint French-Belarusian expedition on catching woodcocks in Belarus. The expedition literally threw more light on biology and behavior of such interesting species as woodcock and jack snipe.**

# ТАЯМНІЧАЯ НЕЗНАЁМКА

**Мікалай ЧЭРКАС**

Фота аўтара і І.Бышнёва

Згодна з усходнім календаром 2005 год з'яўляецца годам Пеўня. Але беларускія арнітолагі вырашылі, што не патрэбен нам ні абскубаны кітайскі певень, ні бройлерны амерыканскі; ёсць у нас і свая годная птушка – гэта барадатая кугакаўка. Менавіта яна паводле прапановы нашай арганізацыі стала птушкай года ў Беларусі. Але хто ж яна, гэтая таямнічая незнаёмка? Давайце зазірнём у яе дасье і больш дэталёва пазнаёмімся з "асабістым жыццём" гэтай птушкі.



З усіх кугакавак барадатая дасягае найбольшых памераў. Аднак яе буйныя памеры – гэта не што іншае, як памеры ўяўныя. Пад апярэннем хаваецца шчуплае тулава. Пры размаху крылаў у 1,35-1,6 м самцы ў сярэднім важаць усяго 845 грамаў, а самкі – 1140. Сваю назву сава атрымала за цёмную абмалёўку кліна пер'яў пад дзюбаю – "бараду".

Барадатая кугакаўка – не вялікая ахвотніца падарожжаў. Яна хутчэй вядзе аседлы лад жыцця, да моманту наступлення палавой сталасці (у 4-5 гадоў) яна звычайна стараецца знайсці прытулак, які знаходзіцца недалёка ад месца яе нараджэння.

Аблюбаванымі месцамі знаходжання барадатай кугакаўкі з'яўляюцца ўчасткі лесу, што мяжуюць з адкрытымі прасторамі балотаў, з пустэчамі і выжарынамі. Хоць любоўны сезон у барадатай кугакаўкі пачынаецца з надыходам студзеня, да гнездавання птушкі усё ж прыступаюць у канцы сакавіка–пачатку красавіка. Самец стараецца пакарыць прадстаўніцу прыгожага полу сваім шлюбным палётам. Ён выконвае яго, павольна лятаючы па звілістай траекторыі. Часам і будучая партнёрка не ўтрымліваецца ад удзелу ў ім. Асабліва ўважлівы кавалер можа зрабіць падарунак сваёй абранніцы, прапанаваўшы ў якасці прэзенту толькі што здабытую палёўку. У сярэдзіне лютага самец бярэцца за пошукі гнязда. Ён уладкоўваецца ля магчымага месца будучага жылля і пачынае спяваць. Яго сігнал не такі яркі, як у іншых нашых соваў. Тэрытарыяльны крык барадатай кугакаўкі чутны не далей, чым за 100 метраў і складаецца з тузіна манатонных нізкіх гукаў "у-у-у". Іх рытм паскараецца адначасна з паніжэннем частаты. Калі самка зацікавілася, то яна часам далучаецца да самца. Калі ж самка выяўляе абыякавасць, то самец вымушаны працягваць пошукі.

Шлюбныя пары ў барадатых кугакавак ствараюцца на працяглы тэрмін, але ці захоўваюць яны вернасць адзін аднаму – невядома. Яйкі птушкі адкладваюць, як правіла, адкрыта, напрыклад, у старым гняздзе драпежнай птушкі. Часцей за ўсё кугакаўка выкарыстоўвае старыя гнездавыя пабудовы канюка, часам асееда, зрэдку – гнёзды арляца ці скапы і яшчэ радзей шуляка-галубятніка. Не пагарджае барадатая кугакаўка пры гнездаванні і высокімі пнямі з часткова выгнілым стрыжнем, што ўтварыў латак.

У красавіку ў барадатай кугакаўкі ўжо поўныя кладкі яек. Яны ўтрымліваюць 3-4, радзей 5 яек. Да наседжвання самка прыступае з адкладкі першага яйка. Птушаняты пачынаюць вылупліваццца праз 28–30 дзён. Але ў сувязі з тым, што адкладка яек па часе расцягнута (да 12 дзён), а самка пачынае выседжванне з першага адкладзенага яйка, то памеры птушанятаў з аднаго гнязда значна адрозніваюцца.

Сядзіць самка вельмі шчыльна і не злятае з гнязда нават тады, калі побач апынаецца чалавек. Патрэбна адзначыць, што кугакаўкі на здзіўленне вельмі клапатлівыя бацькі. Самец пільна ахоўвае гнездавы ўчастак і рэгулярна прыносіць самцы корм, пакуль тая выседжвае яйкі. Калі ж у гняздзе з'яўляюцца птушаняты, ролі бацькоў трошкі змяняюцца. Цяпер самец у асноўным палюе, а ахову птушанятаў амаль поўнасцю здзяйсняе самка. Вядзе яна сябе на рэдкасць агрэсіўна і чалавека, які да яе набліжаецца, сустракае часам за дзесяткі метраў. На яе ўзбуджаны крык хутка прылятае і самец. Калі ж паспрабаваць залезці на гнездавое дрэва,



то раз'юшанасці соў няма мяжы. Яны смела пікіруюць на ворага, стараючыся моцна стукнуць яго кіпцюрамі па спіне ці галаве. Ні адзін звер не адважваецца разбурыць гняздо барадатых кугакавак.

Самка старанна клапоціцца пра патомства, не пакідаючы яго ў першыя дні ні на адно імгненне. У абавязкі самца ўваходзіць забеспячэнне сям'і, і ён пастаянна прылятае да гнязда і зноў адлятае, каб задаволіць апетыт птушанятаў. Спачатку яны атрымліваюць кавалачкі, якія самка адрывае ад прынесенай бацькам здабычы.

У час выкормлівання птушанят самец дзейны не толькі на змярканні і ноччу, але і днём. Часам яго можна ўбачыць нават пры сонечным святле. Быццам карабель, які плыве ў марыве нагрэтага паветра, што струменіцца над балотам, птушка, паволі ўзмахваючы крыламі, ляціць над самаю зямлёю. Часам пошукавы палёт змяняецца пільнаваннем. Пры гэтым сава ўсаджваецца на купіну ці пень і падоўгу ўслухоўваецца ў шоргат і ўглядаецца ў траву пад сабою.

Пакуль птушкі не апрыліся, самка амаль не палюе. Звычайна, убачыўшы самца, які вяртаецца з кормам, яна накіроўваецца насустрач і забірае ў яго здабычу. Усеўшыся на гняздо і агледзеўшыся, яна пачынае карміць птушанятаў, адрываючы ад ахвяры маленькія кавалачкі. Галодныя птушаняты цягнуцца да маці і выдаюць пры гэтым хрыплае сіпенне. З двухтыднёвага ўзросту савяняты ўжо ў стане заглытваць здабычу бацькоў, напрыклад, палёвак, цалкам.

Маладыя кугакаўкі пакідаюць гняздо, яшчэ не ўмеючы лятаць. Ва ўзросце каля трох тыдняў (глыбокаю ноччу з вышыні ў некалькі метраў) яны, не вагаючыся, бясстрашна падаюць на зямлю. У большасці выпадкаў іх падзенне змякчаецца лясною глебаю. Не ўяўляючы, што будзе далей, яны застаюцца поўнасцю безабароннымі. Двое сутак птушаняты сядзяць на бліжэйшых галінах ці ў травяністых зарасніках і пастаянна крычаць, патрабуючы ежы. Яшчэ праз тыдзень з тымі ж крыкамі вывадак аддаляецца ад гнездавога дрэва на сто–дзвесце метраў. Адбываецца гэта звычайна ў канцы чэрвеня. З гэтага моманту яны сігналізуюць дарослым птушкам пра сваё месцазнаходжанне, выдаючы жаласныя крыкі-выпрошванні.

У наступныя дні падлеткі стараюцца актыўна махаць крыламі і падлётваць з месца на месца. Ужо ў месячным узросце маладыя кугакаўкі ўмеюць лётаць, але захоўваюць залежнасць ад бацькоў да чатырох-пяцімесячнага ўзросту. Хоць яшчэ да сярэдзіны верасня птушкі будуць трымацца разам.

Як і ўсе драпежныя птушкі, барадатая кугакаўка харчуецца жывою здабычаю. Яна палюе ў асноўным на сысуноў, галоўным чынам на палёвак – адных з самых дробных жывёлінаў. Не грэбуе кугакаўка і іншымі грызунамі – можа здабыць і лясную мыш.

У лік яе ахвяраў можа ўваходзіць і зайчаня, што выпадкова трапілася, і землярыйка. Часам саве шанцуе злавіць вавёрку. Меню можа быць дапоўнена птушкамі – вераб'інымі (ткачыкавымі) і цецерукавымі, такімі, як арабок і курапатка. Калі гаварыць пра карысць ад харчавання лясных соў грызунамі, то з усіх нашых кугакавак барадатая – самая карысная. За шэсць летніх месяцаў, як паказалі назіранні фінскіх арнітолагаў, адна барадатая кугакаўка з'ядае каля 700 мышэй і палёвак.



Як у ва ўсіх спецыялізаваных мышаедаў, колькасць барадатай кугакаўкі залежыць ад наяўнасці корму. У неўраджайныя на мышападобных грызуноў гады многія пары наогул не прыступаюць да размнажэння. Але не толькі галодныя гады шкодныя для колькасці барадатай кугакаўкі – гэта натуральныя праблемы, да іх від за доўгі час свайго існавання прыстасаваўся. А вось да чалавека са стрэльбаю... Вельмі часта птушка пакутуе праз сваю даверлівасць. Блізка падпускаючы да сябе чалавека, яна часта становіцца яго ахвяраю. Браканьерскае, нічым не апраўданае вынішчэнне барадатай кугакаўкі згубна ўплывае на захаванне гэтага віду. Злачынная таксідэрмія можа паставіць існаванне гэтага вельмі цікавага віду на мяжу знікнення.

Менавіта таму мы выбралі барадатую кугакаўку птушкаю 2005 года. Менавіта таму на працягу года арганізоўвалі дзіцячыя конкурсы, зацікаўлена расказвалі пра нашых соваў у друку, на радыё і тэлебачанні, праводзілі акцыю замены чучалаў на фотаздымкі "Я не хачу стаць чучалам, а ты?" Спадзяюся, што ў нас у Беларусі гэта зразумелі многія...

**A most mysterious bird, Bird of Year 2005 in Belarus, the Great Grey Owl is the main character of the article "The mysterious owl" by Mikalaj Cherkas, ornithologist from Belavezskaja pusca. The Great Grey Owl is one of the rarest and most vulnerable owls in Belarus. Illegal taxidermy can virtually push the species to the verge of extinction. In order to inform wider audience about the need to urge active conservation of the species, APB nominated this owl as Bird of Year 2005. Throughout the year many actions where initiated, including contests and programmes for children, broad coverage on TV, radio and newspapers, campaign "I don't want to be stuffed, what about you?" persuading owners of stuffed birds of prey to exchange them for quality photographs of live birds...**



# ЗДЫМАК БАРАДАТАЙ КУГАКАЎКІ

**Ігар БЫШНЁЎ**

Фота аўтара





З дзіцячых гадоў я памятаю дзівосны здымак барадатай кугакаўкі, які я ўбачыў у часопісе "Советское фото" яшчэ ў канцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя: птушка, якая ляціць проста ў аб'ектыў. Дзве лініі крылаў і мішэнь тварнага дыску, што, як знішчальнік-смяротнік, на страшнай хуткасці набліжаецца да ворага. Нейкае дзікае, але невытлумачальна прыцягальнае хараство было ў гэтым здымку, адным з найлепшых, убачаных мною калі-небудзь.

На жаль, я за ўсе свае гады фотаанімалістыкі такога здымку не зрабіў, а мог...

Май 2001 году, Бярэзінскі запаведнік, балота Жары. Наша кіназдымачная група здзяйсняе гераічны 5-кіламетровы пераход праз балота да берагу возера Масковіца. Балота няпростае само па сабе, а мы цягнем з сабою апаратуру кілаграмаў на 300. Не хочацца, а патрэбна. Там, у сэрцы запаведнай забалочанай тэрыторыі, упершыню ў гэтых мясцінах знайшлі жылое гняздо барадатай кугакаўкі. Прытым гэта ўжо наш другі паход, першы быў тры тыдні назад. Мы зрабілі здымкі птушкі, што выседжвала яйкі, але рызыкаваць дакучнымі здымкамі не сталі, перанеслі іх на час, калі ў кугакаўкі павінны будуць з'явіцца птушаняты.

Нарэшце праклятыя кіламетры ззаду, і я, пакінуўшы сваіх калегаў з кіначалезам, набліжаюся да гнязда..., але нікога не бачу. Птушкі няма! Наогул ворагаў у барадатых кугакавак практычна няма. Месца амаль ці не самае дзікае на зямлі, і я некалькі тыдняў жыў у прадчуванні здымкаў чароўных плюшавых чарцянятаў...

У любым выпадку гняздо праверыць неабходна. Барадатая кугакаўка – адна з самых агрэсіўных соў і наогул істотаў у лесе. Ля свайго патомства яна не баіцца нікога, нават мядзведзь абыходзіць бокам яе гнездавы ўчастак.

Птушка атакуе не раздумваючы, імклівa і ўтрапёна пікіруе і цэліцца ворагу ў твар. Таму да сустрэчы з яе кіпцюрамі рыхтуемся заўсёды: матацыклетны шлем на галаву, акуляры, шчыльная ватоўка са скуранымі пракладкамі ля шыі, на плячах. "Кіпці" на ногі – лезу. Да гнязда ўжо рукой падаць, я вішу на адкрытым участку ствала, адкуль да гнязда застаўся апошні кальчак сасновых галінак. Да зямлі метраў 7-8. Разварочваюся ў бок балота і бачу кадр майго дзяцінства: дзве лініі крылаў і мішэнь тварнага дыску, што імклівa набліжаюцца да мяне. Паварочваю твар да ствала, выстаўляю правае плячо... Бум! Класны ўдар па галаве, кіпцюры слізганулі па шлеме, пакінуўшы заўважныя драпіны, і птушка адляцела. Метраў 30 да яе, чую – злосна шчоўкае дзюбаю. Ура! Совы ёсць. Недарэмна цягнулі ўсю апаратуру. Шукаю рукою ў гняздзе – нікога! Фантастыка! Дзе птушаняты? Добра, скемлю пасля. Зараз хутчэй уніз, да хлопцаў. Захлынаючыся ад эмоцыяў, расстаўляю людзей і відэакамеры. Зняць такую атаку савы – мара. Усё! Гатова. Матор! Лезу ўверх, вышэй, вышэй... Вось ужо гняздо, заміраю, азіраюся... За дзесяць метраў ад мяне сядзіць барадатая кугакаўка, падрыгваючы дзюбаю, быццам пасміхаючыся, сядзіць, глядзіць і... не атакуе. Махаю рукамі, абзываю яе рознымі словамі, трасу дрэва. Не, не ляціць. Відаць, саву збянтэжылі людзі, што стаялі пад гняздом. З адным агрэсарам яна б яшчэ справілася, а тут цэлая кампанія. Да таго ж і гняздо ўжо пустое. Гэта яна па звычцы і мяне стукнула. Патрэбна было б дзён на пяць раней прыйсці. Але ўсё роўна было здарова! Мы знайшлі трох птушанят рознага ўзросту. Яны ўжо пакінулі гняздо і сядзелі хто на зямлі, хто на галінах. Чароўныя плюшавыя чарцяняты. Прыляцеў самец, клапацілася вакол самка. Матэрыял атрымаўся што трэба. На жаль, толькі здымак-мару дзіцячых гадоў у гэты раз я не зрабіў, а мог...

*30.12.2004*

***P.S.*** *Не прайшоў і год, а гэтая мая мара збылася. Дзякуй барадатым кугакаўкам Белавежскай пушчы і Міколу Чэркасу. Кінасафары было дзівоснае. А некаторыя вынікі вы зможаце ўбачыць на старонках нашага часопіса.*

**The article "A picture of the Great Grey Owl" by Dr Ihar Byshniov is a story of how his long time dream to take a full-face picture of the Great Grey Owl finally came true in 2005.**

# ВАСІЛЬ ФЁДАРАВІЧ ГАЎРЫН

**Васіль ГРЫЧЫК, Мікалай ЧЭРКАС**

Значнае месца ў гісторыі беларускай арніталогіі другой паловы XX стагоддзя займаюць працы па вывучэнні фауны і біялогіі птушак, што праводзіліся на ахоўваемых прыродных тэрыторыях. Упершыню такія даследаванні ў шырокіх маштабах былі разгорнуты ў Белавежскай пушчы, тэрыторыя якой у 1945—1957 гадах мела статус прыроднага запаведніка. Гэты перыяд цесна звязаны з імем арнітолага Васіля Фёдаравіча Гаўрына, першага пасляваеннага намесніка дырэктара запаведніка па навуцы.

В.Ф.Гаўрын нарадзіўся 1 сакавіка 1918 г. у былой Кастрамской губерніі Расіі. Пасля заканчэння васьмігодкі паступіў у Іванаўскі сяльгасінстытут, адкуль праз год перавёўся ў Маскоўскі пушна-футравы інстытут, на факультэт паляўніцтвазнаўства. Як пісаў пазней Васіль Фёдаравіч у аўтабіяграфіі, «гэты крок я зрабіў свядома, бо рос паляўнічым і аматарам прыроды». У ліпені 1941 г. В.Ф.Гаўрын скончыў навучанне ў інстытуце і адразу ж быў мабілізаваны на службу ў армію. Нагадаем, што ў гэты час ішла Вялікая Айчынная вайна. Пасля чатырохмесячнай падрыхтоўкі на курсах Артылерыйскай акадэміі нядаўні студэнт быў накіраваны на фронт, дзе неаднаразова прымаў удзел у баявых дзеяннях да самай Перамогі.

З кастрычніка 1946 г. В.Ф.Гаўрын быў прызначаны старэйшым навуковым супрацоўнікам, а са снежня 1949 г. — намеснікам дырэктара запаведніка «Белавежская пушча» па навуковай працы. Менавіта ў гэты перыяд даследчая праца ў запаведніку была разгорнута ў самых шырокіх маштабах, і адной з першых задач стала вывучэнне фауны і біялогіі птушак гэтага рэгіёну. Для складання па магчымасці поўнага спісу белавежскай арнітафауны пачаўся планавы збор калекцыйных матэрыялаў. Нагадаем, што палявых вызначальнікаў птушак у той час не было, і, згодна з агульнапрынятай метадалогіяй арніталагічнай фауністыкі, збор калекцыі лічыўся неабходнай часткай арніталагічных даследаванняў. Адначасова былі (упершыню для Беларусі) распачаты планавыя работы па ўліку колькасці птушак і вывучэнні іх міграцый. Сучаснік і непасрэдны ўдзельнік тых падзей У.А.Дацкевіч апісвае іх так: «Першачарговая задача арніталагічных даследаванняў — інвентарызацыя арнітафауны Белавежскай пушчы — пачала вырашацца дастаткова хутка і паспяхова. Калекцыйны адстрэл птушак вёўся супрацоўнікамі навуковага аддзелу, таксідэрмістамі музея і леснікамі-егерамі. Існавала сувязь з мясцовымі паляўнічымі, што жылі ў ваколіцах пушчы; яны за невялікую ўзнагароду дастаўлялі ў навуковы аддзел здабытых імі птушак. Увесь калектыў запаведніка лічыў сваім абавязкам падбіраць птушак, што разбіліся аб правады ці загінулі з іншых прычынаў. Такім чынам, да сярэдзіны 50-х гадоў было сабрана больш за 2 тысячы асобін птушак, што адносіліся больш чым да 200 відаў. У кожнай здабытай птушкі здымаліся морфаметрычныя паказчыкі, якія заносіліся ў спецыяльную картку.



...Для колькасных улікаў дробных вераб'іных птушак па галасах былі закладзены 34 пастаянныя пляцоўкі па 1 га кожная. Для ўліку больш буйных птушак (драздоў, соек, галубоў, дзятлаў, авяльгі і інш.) заклалі 18 пляцовак па 25 га, падзеленых на маршрутныя сцежкі. Для ўліку цецерукова, а пазней і ўсіх відаў, па ўсіх лясніцтвах пушчы былі пракладзены 26 пастаянных маршрутаў агульнай працягласцю 126 км, што праходзілі праз усе біятопы.

З удзелам усіх работнікаў лясной аховы і навуковага аддзелу былі праведзены ўлік і мапаванне гнёздаў дзённых драпежных птушак, буслоў і крумкачоў. Акрамя збору ў навуковым аддзеле дадзеных па гэтых відах, на схемах і ў пашпартах усіх лясных абходаў адзначаліся гнёзды з мэтай іх аховы, пастаяннага адсочвання іх занятасці птушкамі, назірання за разбурэннем старых і з'яўленнем новых гнёздаў, для збору рэштак ежы і пагадак пад імі.

Для вывучэння размеркавання птушак па біятопах у перыяд гнездавання і ў сезонным аспекце выдатным дадатковым матэрыялам з'яўляліся карткі назіранняў, на якіх рэгістравалася дата, стан надвор'я, месца сустрэчы птушкі, яе апісанне, характар паводзін. Карткі пастаянна запаўняліся ўсёй лясной аховай (каля 100 чалавек).

Феналагічныя назіранні праводзіліся ў поўным аб'ёме адным супрацоўнікам навуковага аддзелу на стацыянарных пляцоўках і маршрутах і, акрамя таго, усёй лясной аховай па спецыяльных бланках-праграмах. Некаторыя феналагічныя вынікі, куды ўваходзілі і арніталагічныя назіранні, змяшчаліся ў летапісах прыроды запаведніка (да 1960 г.).

Шырока было разгорнута кальцаванне птушак, што праводзілася супрацоўнікамі навуковага аддзелу з дапамогай лясной аховы і студэнтаў-практыкантаў. Усяго да сярэдзіны 50-х гадоў было акальцавана каля 17 тысяч птушак. Да гэтага ж часу праз цэнтральнае бюро кальцавання пачалі паступаць звесткі па вяртанні кольцаў».

Ініцыятарам і непасрэдным кіраўніком усіх гэтых работ стаў В.Ф.Гаўрын. У гэты ж перыяд (з 1952 г.) ён быў залічаны ў завочную аспірантуру Інстытута заалогіі Акадэміі навук Казахстана і пачаў працу над падрыхтоўкай кандыдацкай дысертацыі. Для завяршэння гэтай справы В.Ф.Гаўрын быў часова вызвалены ад абавязкаў намесніка дырэктара запаведніка і пераведзены на пасаду старэйшага навуковага супрацоўніка. Да сканчэння тэрміну аспірантуры дысертацыя на тэму «Экалогія цецерукова птушак Белавежскай пушчы» была падрыхтавана і ў 1956 г. паспяхова абаронена на пасяджэнні вучонага савета Інстытута заалогіі АН Казахстана (*Гаврин В.Ф. Экология тетеревиных птиц Беловежской пущи. — Автореферат диссертации канд. биол. наук Гаврина В.Ф. (АН Казахской ССР Институт зоологии) Алма-Ата, 1956, 16*). Да гэтага ж часу вучоны паспеў надрукаваць шэраг навуковых прац, прысвечаных як прадстаўнікам атраду курыных, так і іншым птушкам

Белавежскай пушчы і яе ваколіц: пра рассяленне канарэечнага ўюрка, пра незвычайны выпадак асенняга гнездавання крумкача на тэрыторыі пушчы, пра сезонныя міграцыі птушак... Аднак гэтыя невялікія артыкулы былі толькі маленькай крупіцай у параўнанні з вялізным аб'ёмам арніталагічных звестак, што былі сабраны за акрэслены, параўнальна кароткі перыяд.

Цяжка нават уявіць аб'ём каштоўных звестак, якія маглі б быць сабраны ў ходзе той маштабнай працы, што былі распачаты ў Белавежскай пушчы ў канцы 40-х — першай палове 50-х гадоў XX стагоддзя, і цяжка ацаніць іх магчымае навуковае і практычнае значэнне, калі б усе гэтыя даследаванні працягваліся да нашых дзён. Аднак жыццё распарадзілася інакш. 1957—1958 гг. аказаліся цяжкімі і ў многім вызначальнымі для далейшага лёсу Белавежскай пушчы. 9 жніўня 1957 г. распараджэннем Савета Міністраў СССР запаведнік «Белавежская пушча» быў рэарганізаваны ў запаведна-паляўнічую гаспадарку. Гэта вызначыла і абсалютна іншую мэтавую накіраванасць новаўтворанай структуры — стварэнне максімальна высокай колькасці паляўнічых жывёл, у першую чаргу капытных, для арганізацыі рэгулярных паляванняў для розных высокапастаўленых асобаў. Егерская ахова і таксідэрмічная майстэрня былі вылучаны з навуковага аддзела, лясніцтвам сталі даводзіцца нормы планавай нарыхтоўкі драўніны. Праца навуковага аддзела была пераарыентавана ў асноўным на вывучэнне жывёл — аб'ектаў палявання. Былі спынены ўсе віды ўлікаў птушак, акрамя ўліку глушцоў, цецерукоў, слонак і качак, адменена запаўненне картакназіранняў і вядзенне палявых дзённікаў. Па сутнасці, арніталагічныя даследаванні, разлічаныя на дзесяцігоддзі, былі спынены адміністрацыйным шляхам. Калі супаставіць факты і даты, можна меркаваць, што менавіта з прычыны такога неспрыяльнага ходу падзей В.Ф.Гаўрын быў вымушаны пакінуць Белавежскую пушчу. Месцам яго новай працы стаў Казахстан.

За 11 гадоў працы ў пушчы Васіль Фёдаравіч сабраў вялікі аб'ём матэрыялаў пра птушак гэтага ляснога масіву і яго ваколіцаў. Аднак задуманая ім капітальная праца «Птушкі Белавежскай пушчы» так і не была надрукавана. Незакончаны рукапіс гэтай манаграфіі (з недапісанымі характарыстыкамі часткі відаў атраду вераб'інападобных) у выглядзе навуковай справаздачы быў перадрукаваны на пішучай машынцы ў некалькіх экзэмплярах. Адзін з іх застаўся ў бібліятэцы Белавежскай пушчы, адкуль бясследна знік ужо ў канцы мінулага стагоддзя, другі быў перададзены ў Мінск, у аддзел заалогіі і паразіталогіі Акадэміі навук.



Пазней гэтая справаздача была ў значным аб'ёме выкарыстана А.У.Фядзюшыным і М.С.Долбікам пры напісанні кнігі «Птушкі Беларусі», што ўбачыла свет у 1967 годзе. Спасылкі на матэрыялы В.Ф.Гаўрына ў гэтай кнізе ёсць ледзь не на кожнай старонцы.

Яшчэ адзін істотны складнік навуковай спадчыны В.Ф.Гаўрына, які не страціў свайго значэння да нашага часу, — гэта сабраная пад яго кіраўніцтвам калекцыя птушак Белавежскай пушчы ў выглядзе стандартных калекцыйных «тушак». На жаль, калекцыя была вывезена за межы Беларусі і перададзена ў Маскву, дзе сёння захоўваецца ў заалагічным музеі Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Па нашых падліках, у фонды гэтага музея паступіла ў той час больш за тры тысячы птушак з Белавежскай пушчы. На сёння гэта — найбольшы па аб'ёму збор птушак з заходніх абласцей Беларусі.

Самастойнае навуковае значэнне мае збор картак біялагічнага апісання здабытых птушак; кожная картка змяшчае шматлікія звесткі пра ўмовы здабычы экземпляра, яго масу, памеры, змесціва страўніка, наяўнасць паразітаў і іншае. Каля тысячы такіх картак разам з калекцыяй тушак захоўваюцца ў заалагічным музеі МДУ, аднак вядома, што іх было значна больш.

Далейшы лёс В.Ф.Гаўрына з 1958 па 1964 г. быў звязаны з Казахстанам, дзе ён у прыватнасці прыняў удзел у напісанні вядомай 5-томнай працы «Птушкі Казахстана». Потым кароткі час працаваў у г. Іркуцку, затым у г. Кіраве, займаўся ў асноўным пытаннямі навуковай арганізацыі паляўнічай гаспадаркі. З 1968 г. В.Ф.Гаўрын заняў пасаду дырэктара Цэнтральнай навукова-даследчай лабараторыі паляўнічай гаспадаркі Расійскай Федэрацыі, дзе працаваў да канца жыцця і адначасова з'яўляўся членам рэдкалегіі вядомага часопіса «Паляванне і паляўнічая гаспадарка». Адміністрацыйная праца ў гэты перыяд не дазваляла шмат увагі ўдзяляць непасрэдным заняткам навукай, аднак высокі творчы патэнцыял вучонага дазволіў яму і ў гэты час напісаць шэраг прац па прыкладной заалогіі і экалогіі. Агульная колькасць надрукаваных прац В.Ф.Гаўрына дасягае 100, у тым ліку не менш як 15 прысвечаны птушкам Белавежскай пушчы.

У памяці сучаснікаў, якім давялося асабіста ведаць В.Ф.Гаўрына, ён застаўся абаяльным, вясёлым і жыццярадасным чалавекам, для якога захапленні прыродай і паляваннем былі зліты ў адзінае цэлае з яго прафесійным заняткам... Яго жыццё трагічна абарвалася пад час купання ў спякотны летні дзень 27 чэрвеня 1975 г. ля горада Краснаярска...

**Dr Vasil Grychyk and Mikalaj Cherkas continue the rubric "From the history of belarusian ornithology". This story is about Vasil F. Gauryn (1918–1975), the first in the after war period deputy director for science of Belavezhskaia pushcha. During his 11 years in this position, Vasil Hauryn collected extensive material about birds of prey and grouses of this forest and its vicinities. But the fundamental work "Birds of Belavezhskaia pushcha" that he conceived was never published.**

# ЦІ ЛЮБЯЦЬ ПТУШКІ АЎТАМАБІЛІ?



**Ігар БЫШНЁЎ**

Фота аўтара

Не, не любяць. Шумныя, з дымам, толькі і глядзі, каб не папасці пад колы. Але ў любым правіле ёсць сваё выключэнне. З гэтым самцом белай пліскі – аўтааматарам – мы пазнаёміліся вясною гэтага года каля метэастанцыі Бярэзінскага запаведніка. Дзеці назвалі яго Шумахер. Зразумела, у гонар каго. І не дарэмна. Калі ён чуў гук матора, сэрца яго трапятала, ён узбуджана лётаў уздоўж плота ў прадчуванні сустрэч з аўто. Нарэшце, машына пад'язджала да станцыі, і Шумахер пачынаў бегаць па машыне, зазіраючы ва ўсе аўтамабільныя вокны. Асабліва яму падабаліся люстэркі. Яшчэ б – яны такія бліскучыя, у чорнай аправе, да таго ж там, у іх, заўсёды сядзела нейкая задзірыстая птушка. Шумахер так стараўся дастаць гэтую нахабную птушачку, што пад вечар усё люстэрка станавілася белае. А наш герой, перамогшы таго – у люстэрку, з задаволеным відам усаджваўся на капот аўтамабіля і заслужана адпачываў. Затым ён спускаўся на асфальт папаляваць на розных казюрак, а затым – ізноў у бой... Калі дырэктар метэастанцыі ўпершыню расказаў нам пра гэтую дзівосную птушку, ён успомніў і пра ката, у якога таксама былі свае прыхільнасці. У прыватнасці, гэты коцік вельмі любіў аўтамабілістаў, асабліва птушак. І пакуль птушка скакала па машыне, коцік поўз, і куды вы думаеце? Правільна, да аўтамабіля. Толькі птушка заўжды паспявала і коціка падмануць, і па машыне паскакаць. Так расказваў нам дырэктар метэастанцыі.

Назаўтра мы прыляцелі знаёміцца. І ўбачылі, што адлегласць паміж птушкаю-аўтагоншчыкам і катом – заўзятым балельшчыкам, за мінулыя суткі значна зменшылася да мінімальна магчымай. У пліскі практычна ўвесь хвост быў вырваны. Прапала акраса! Ну і што, галоўнае – не маркоціцца. Пакуль мы жывыя, усё, што патрэбна, – гэта аўтамабіль, колы, капоты, люстэркі... Пакуль б'ецца сэрцайка!

Гэтая гісторыя, вядома ж, мае сваё тлумачэнне. Самец пліскі ахоўваў гняздо, ахоўваў так сумленна, што кожны раз біўся з віртуальным супернікам з люстэрка. І кожны раз перамагаў! Ну і, нарэшце, выдатна, калі ў цябе ёсць машына!

**"Do birds like cars?" is a story by Dr Ihar Byshniou about an unusual behaviour of a male white wagtail which fought with reflections in car mirrors during whole breeding season.**



## ЛЕМІНГІ?!? ДЫК ГЭТА Ж ДРАПЕЖНІКІ

*Некаторыя рыбы выскокваюць з вады на вышыню 2–5 метраў і затым ловяць у паветры насякомых.*

У дэвонскі перыяд зямля ўяўляла сабою сукупнасць разнастайных вадаёмаў.

*Для падтрымкі жыцця ёй (рыбе), як і ўсім жывёлам, вядома, патрэбен кісларод – па сутнасці, яе дыхальны працэс не так і моцна адрозніваецца ад дыхання наземных жывёлаў.*

«Амфібіі» дакладна перакладаецца як двуаякадыхаючыя.

*Як і ніжэйшыя жывёлы, ланцэтнік застаецца жывы, калі яго разрэзаць на часткі, і кожная з іх можа вырасці ізноў.*

Пагадкі: калі кормяць птушанятаў, адрыгваючы ежу.

*Планктон і іншыя рыбы.*

Чарвякі: зімуюць (!) пад каранямі... Жывуць пад зямлёю, але калі палююць – ходзяць па зямлі.

*Таксама траваядным зяленіва не патрэбнае, таму што яны яго аб'ядуць і ад эстэтычнага выгляду нічога не застанецца.*

Яйцавым зубам рэптыліі прабурваюць яйка. Яйцавы зуб – гэта карэнны, малочны зуб.

*Кажаны кормяцца грызунамі.*

Васьміног можа выскокваць з вады і пралятаць некалькі метраў.

*Блохі паразітуюць на чалавеку, але часцей – на сабаках.*

Прырода вельмі хітра ўладкавана.

Так, мухі больш сімпатычныя, чым земнаводныя, але шкода ад іх агромністая.

*У біяцэнозе адбываецца барацьба за выжыванне, з'яданне меншых большымі, дзікіх – драпежнымі.*

Заяц з'ядае траву, зайца з'ядае воўк, ваўка – тыгр.

*Вочы знаходзяцца навыкаце.*

У школе пасля першага званка вучні думаюць пра абед, а ва універсітэце ніхто не ўспамінае пра сталоўку (прыклад умоўнага рэфлексу).

***Падрыхтавалі: А.Храмогін, О.Созінаў, О.Янурэвіч, А.Рыжая (ГрДзУ)***

# Дзіцячая старонка

Совы палююць па начах. У цемры іх зрок у сто разоў лепшы, чым у нас. Пры тым і ўдзень яны бачаць выдатна. Акрамя таго, совы могуць знаходзіць ахвяру на слых нават пад снегам.

На зямлі жыве 139 відаў соў. Гэтыя птушкі з'явіліся прыкладна 60 – 70 мільёнаў гадоў таму. Іх цела цудоўна прыстасавана для палявання.

Мяккае на канцах пер'е робіць палёт савы бязгучным, дазваляючы ёй непрыкметна набліжацца да ахвяры.

Лапы ў соў абаротнапальцавыя: два пальцы накіраваныя ўперад, два – назад. Гэта вельмі зручна для схоплівання ахвяры.

Совы прыносяць вялізную карысць чалавеку, знішчаючы дробных грызуноў. На жаль, дзейнасць чалавека – высечка лясоў, асушэнне балотаў – садзейнічае выміранню гэтых птушыных начных драпежнікаў.

Дзякуючы рухомай шыі совы свабодна паварочваюць галаву на 360 градусаў.

# ПТУШКА ГОДА



***Аліна Касцюкова,*** 8 гадоў (Віцебск)



***Аляксандра Калкоўская,*** 12 гадоў (Стаўбцоўскі р-н)



***Таццяна Цяпко,*** 9 гадоў (Віцебск)



***Марыя Саўкіна,*** 9 гадоў (Гомель)



***Вераніка Кухарчык,*** 9 гадоў (в.Засулле, Стаўбцоўскі р-н)



***Павел Шчэрбак,*** 9 гадоў (В. Трасцянец)